Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь
Брэсцкі дзяржаўны педагагічны інстытут

Л. В. ЛЕВАНЦЭВІЧ

# АТЛАС ГАВОРАК БЯРОЗАЎСКАГА РАЁНА БРЭСЦКАЙ ВОБЛАСЦІ. ФАНЕТЫКА

Частка І

Вучэбны дапаможнік па курсу "Беларуская дыялекталогія" для студэнтаў спецыяльнасці 02.19 "Беларуская мова і літаратура"

Брэст, 1993

Адказны рэдактар: старшы навуковы супрацоўнік Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа Акадэміі навук Беларусі, кандыдат філалагічных навук Ф.Д.Клімчук

Рэцэнзенты: кандыдат філалагічных навук дацэнт кафедры беларускага мовазнаўства Брэсцкага педінстытута М.М.Аляхновіч; старшы навуковы супрацоўнік Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа Акадэміі навук Беларусі, кандыдат філалагічных навук М.Н.Крыўко

Леванцэвіч Л.В. Атлас гаворак Бярозаўскага раёна Брэсцкай вобласці. Фанетыка: Дапаможнік па курсу "Беларуская дыялекталогія" для студэнтаў спецыяльнасці "Беларуская мова і літаратура".— БрДзПІ

Дапаможнік уяўляе сабой атлас гаворак Бярозаўскага раёна Брэсцкай вобласці. Закартаграфаваны матэрыял з 83 населеных пунктаў адлюстроўвае асноўныя фанетычныя асаблівасці Бярозаўшчыны і памежных раёнаў.

Адказны за выпуск В.М.Крукаў

---

Подписано в печать I9.07.93., Ф. 60 х 84/I6, офсетная печать, 3,I усл.п.л., 3,I уч.-изд.л., тираж I00 экз., заказ № 206.

Отпечатано на ротапринте Брестского государственного педагогического института им.А.С.Пушкина,224665,Брест,ул.Советская, 8.

---

ЗМЕСТ

## ПРАДМОВА

Бярозаускі раён знаходзіцца на поўначы Брэсцка-Пінскага Палесся. Размешчаны ён у басейне левага прытока Прыпяці — р. Ясельды, на поўначы мяжуе з гістарычнай вобласцю Панямоннем.

Актуальнасць даследавання гаворак гэтага рэгіёна, у прыватнасці, стварэнне рэгіянальнага дыялектнага атласа ў яго межах вызначаецца шэрагам прычын. Вучонымі пераканаўча даведзена, што р. Ясельда працяглы час уключала сабою частку этнічнай мяжы паміж славянамі і балтамі.[1] Гэта нельга разумець у літаральным сэнсе. Рэкі ў старажытнасці звычайна не раз'ядноўвалі, а аб'ядноўвалі людзей, бо з'яўляліся галоўнымі шляхамі зносін. Этнічнымі межамі ў старажытнасці і ў ранняе сярэдневякоўе з'яўляліся буйныя лясныя і балотныя масівы. Паласа лясных і балотных масіваў праходзіць па поўначы і паўночным усходзе Бярозаўскага раёна, /Лексічны атлас беларускіх народных гаворак. Том I. Мінск, 1993. Карта II. Лясы і балотныя масівы./, г. зн. некалькі кіламетраў на поўнач і паўночны ўсход ад парэчча Ясельды. Гэтыя лясы і балоты працягваюцца ў суседніх раёнах, утвараючы мяжу паміж Палессем і Панямоннем. Даследаванні археолагаў сведчаць, што ў старажытныя часы ў межах Бярозаўскага раёна па абодва бакі Ясельды жыло насельніцтва, якое адносілася да адных этнакультурных груп. Далёка не ўсе археалагічныя помнікі можна суаднесці з тым ці іншым этнасам. І усё ж шэраг старажытных помнікаў у межах Бярозаўскага раёна ці ў яго бліжэйшым наваколлі адносіцца да тых археалагічных культур, якія многія даследчыкі лічаць славянскімі. Да іх, у прыватнасці, адносяцца наступныя абломкі посуду тшцінецкай культуры /каля 1500 — 1100 гг. да н.э./, знойдзеныя на поўнач ад г. Бярозы і каля в. Горбава, два бранзалеты лужыцкай культуры /каля Х—У стст. да н.э./каля в. Горбава, абломкі посуду паморскай культуры /ІУ—ІІ стст. да н.э./ каля в. Харава Пружанскага раёна, абломкі посуду зарубінецкай культуры /ІІІст. да н.э. — ІІ ст. н.э./ каля вв. Опаль і Упірава Іванаўскага раёна, Харава Пружанскага раёна, познезарубінецкай культуры /ІІ—У стст./ каля в. Горбава і на паўднёвым беразе Спораўскага возера, пражскай культуры /УІ—УІІ стст./ каля в. Горбава.[3] Славянскія помнікі УІІІ—ХІІІстст. /пераважна ХІ—ХІІІ стст./ выяўлены каля г. Бярозы, вв. Горбава, Зарэчча, Малеч, Хойнікі.[3]

Славянскае насельніцтва УІ—УІІІстст., якое жыло на тэрыторыі сучаснага Бярозаўскага раёна, відаць, уваходзіла ў напры-

пяцкую групу.[4] У далейшым гэтая група раздзялілася на тры часткі: пауночную або раннедрыгавіцкую, паўднёвую або драўлянскую і заходнепалескую. У Заходнім Палессі, магчыма, склалася усходнеславянскае "малое" плем.. Есць некаторыя падставы дапускаць, што менавіта гэтае племя у сярэдневяковых заходнееўрапейскіх крыніцах абазначаецца этнонімам нерывяне, а у візантыйскіх крыніцах — этнонімам верв іяне.[5] Пауночная галіна надпрыпяцкай раннесла янскай групы стала першапачатковым ядром дрыгавіцкага племяннога саюзу. Першапачаткова гэтае ядро ахоплівала парэчча Прыпяці ад нізоуя Гарыні на захадзе да Дняпра на усходзе. У далейшым арэал дрыгавічоу пашыраўся наступным чынам.[6] Дрыгавіцкія помнікі IX — пачатку X стст. вядомы па р. Пцічы да яе вярхоўяў, па Брагінцы, часткова па Случы і Арэсе, па Дняпры ніжэй вусця Бярэзіны. Да X ст. адносяцца помнікі дрыгавічоу па Дняпры вышэй вусця Бярэзіны, па Друці, Пцічы, Св'слачы, Лані, у вярхоўях Нёмана, у цэнтральнай Міншчыне. Такім чынам, к канцу X ст. склаўся асноўны арэал дрыгавічоу.[7] Паўднёвая яго мяжа праходзіла на поўдзень ад Прыпяці, пауночная — на поўнач ад Мінска, да Лагойска і Барысава, усходняя — па Дняпры да Быхава і Друці, заходняя — да лініі Лунінец, Ганцавічы, Стоўбцы, Заслаўе. У XI ст. з'явіліся дрыгавічы у Панямонні, у пауночнаусходнім Пабужжы /Каменецкі раён/ і на Беласточчыне.[8] У Панямонні яны сустрэліся з іншымі славянскімі групамі /нашчадкі старажытных насельнікаў краю, крывічы, часткова валыняне/ і з балтамі. З іншымі славянскімі групамі сустрэліся дрыгавічы і у Пабужжы. Некаторыя даследчыкі пашыраюць арэал дрыгавічоу на пауночна-заходнюю Валынь.[9] Этнавызначальнымі археалагічнымі помнікамі дрыгавічоу даследчыкі лічаць так званыя пацеркі дрыгавіцкага тыпу або дрыгавіцкія пацеркі і дрыгавіцкія скроневыя кольцы.[10] Месцы знаходак наступныя.[11] Усяго выяўлена больш за 220 дрыгавіцкіх пацерак. З іх амаль дзве трэці знойдзена у зоне асноўнага рассялення дрыгавічоу: Мінская вобласць — 42 пацеркі, Гомельская вобласць /на захад ад Дняпра/ — 4?, Магілёўская на захад ад Дняпра — 50. У пауночнай частцы Житомірскай вобласці Украіны, якая мяжуе з Гомельскай вобласцю Беларусі і дзе жыло многа дрыгавічоу, таксама знойдзена многа дрыгавіцкіх пацерак. Усяго на Житомірскай вобласці — 20. У Гродзенскай вобласці дрыгавіцкіх пацерак знойдзена толькі 5, праўда, яны выяўлены у розных раёнах. На Гродзеншчыне у пачатку II тыс. н.э., відавочна, пераважала дрыгавіцкае насельніцтва. Але дрыгавіцкай Гро-

дзеншчына стала паэней, чым асноўныя раёны Міншчыны, заходняй Гомельшчыны і заходняй Магілёўшчыны. Каланізацыйныя рухі дрыгавічоў на захад адбываліся пераважна па Нёмане і яго прытоках. У Віцебскай вобласці знойдзены толькі 2 дрыгавіцкія пацеркі. У Брэсцкай вобласці выяўлена 8 дрыгавіцкіх пацерак, з іх 2 у Столінскім раёне, 5 у Камянецкім і адна у г. Брэсце. На Беласточчыне /Польша/ выяўлена 7 дрыгавіцкіх пацерак. 27 дрыгавіцкіх пацерак выяўлена у Валынскай вобласці Украіны, аднак усе яны знойдзены у наваколлях г. Луцка ці у самім горадзе. Відаць, у гэтым рэгіёне пасялілася кампактная група дрыгавічоў. У Ровенскай вобласці Украіны выяўлена 7 дрыгавіцкіх пацерак, у іншых абласцях Украіны — 9, у Бранскай вобласці Расіі — 2, у Латвіі — І пацерка. Дрыгавіцкіх скроневых кольцаў знойдзена 43, з іх у Гомельскай вобласці 25, Магілёўскай — ІІ, у Камянецкім раёне Брэсцкай вобласці — 4, у Столінскім раёне — і, у г. Луцку на Валыні — 2.

У этнічнай гісторыі Заходняга Палесся істотная роля належыць валынянам. Першапачатковым ачагом гэтага племені з'яўляецца паўднёва-усходняя Валынь /раён Луцка і Роўна/.[12] Прыкладна у канцы УІІ — пачатку УІІІ стст. у склад валынянскага плямённога саюзу увайшла значная частка славянскага насельніцтва Заходняга Палесся /Валынскага і Брэсцка-Пінскага/.[13] Міграцыі валынян на поўначы дасягалі раёна сучаснага г. Навагрудка.[14] Этнавызначальнымі археалагічнымі помнікамі валынян вучоныя лічаць так званыя "парныя" курганы,[15] хоць некаторыя даследчыкі аспрэчваюць іх валынянскую прыналежнасць.[16] "Парныя" курганы выяўлены у суседніх з Бярозаўскім раёнах — Драгічынскім, Кобрынскім, Пружанскім.[17] У Бярозаўскім раёне яны невядомы.

Такім чынам, на тэрыторыі Бярозаўскага раёна не выяўлены ні этнавызначальныя дрыгавіцкія, ні этнавызначальныя валынянскія археалагічныя помнікі. Стварaецца ўражанне, што у канцы І — пачатку ІІ тыс. н.э. дрыгавіцкія і валынянскія уплывы часта "абміналі" тэрыторыю Бярозаўскага раёна.

Разгледжаны матэрыял дае падставы для наступных меркаванняў і высноў. На тэрыторыі Бярозаўскага раёна, з аднаго боку, сутыкаліся уплывы дрыгавіцка-паньмонскія і валынянскія, а, з другога, — яны былі меншыя, чым у некаторых суседніх рэгіёнах, а значыць, тут больш захоўвалася тое, што гэтым уплывам папярэднічала. Міграцыі дрыгавічоў з Панямоння у Пабужжа хутчэй за усё адбываліся праз вярхоўі Нёмана, бліжэй да паўночна-заходніх межаў сучасна-

га Бярозаўскага раёна. Некаторыя даследчыкі мяркуюць, што рух дрыгавічоў у Надбужжа адбываўся па р. Ясельдзе з Сярэдняга Надпрыпяцця.[18] Археалагічна этнавызначальнымі помнікамі гэта не засведчана. А калі гаварыць пра ранніх дрыгавічоў, тэрыторыя якіх абмяжоўвалася Сярэднім Надпрыпяццем, дык яны, зразумела, этнічна і моўна адрозніваліся ад позніх дрыгавічоў, якія ўключылі ў свой саюз шматлікае насельніцтва Цэнтральнай Беларусі і Панямоння. Такім чынам, дрыгавіцка-панямонскія уплывы, відавочна, найбольш закранулі паўночны захад Бярозаўскага раёна. Менавіта там пашыраны верхнеясельдскія гаворкі, для якіх характэрны пераход мяккіх *д', *т' у /дз'/,/ц'/ /дз͡ед, ходзіці/. Для верхнеясельдскіх і стрыгінскіх гаворак характэрна мяккасць зычных *д, *т, *з, *с, *н, *л перад і /ніва, сіла/. Прыведзеныя дзве рысы аб'ядноўваюць частку гаворак Бярозаўскага раёна з гаворкамі Панямоння. Відавочна, гэта з'яўляецца вынікам больш сувязяў паўночнай часткі раёна з Панямоннем, чым яго паўднёвая частка. Мабыць, вынікамі сувязяў /прамымі ці ўскоснымі/ гаворак паўднёвай часткі Бярозаўскага раёна з Валынню з'яўляюцца такія іх рысы, як пераход *ѣ>/і/ пад націскам /сіно, ліс/ і пераход *е, и, и$^{э}$ у пераднаціскным становішчы /сыло, си$^{э}$ло, высна, ви$^{э}$сна/.

Характэрны для гаворак Бярозаўскага раёна і рысы, якія адсутнічаюць або не з'яўляюцца тыповымі ў гаворках больш паўночных /панямонскіх/ і ў больш паўднёвых. Да такіх рыс, у прыватнасці, адносяцца: дыфтонг /͡іе/ або галосны /ê/ на месцы націскнога *ѣ /л͡іес, лêс, с͡іено, сêно/, дыфтонг /͡уо/ або галосны /ô/,/у/ на месцы націскнога *о у новых закрытых складах /м͡уой, мôй, муй, к͡уонь, кôнь, кунь/, захаванне пераднаціскнога *е /вэсна, сэло/, захаванне мяккіх *д', *т'/пераходзяць з "паўмяккіх" *д' *т'/ перад *і /ходіті, тіхо/ і інш. Гэтыя рысы з'яўляюцца вынікам захавання ў гаворках Палесся старадаўніх архаікі і часам яе далейшага спантаннага развіцця.

На думку даследчыкаў, на тэрыторыі Брэстчыны ў сярэднявяковыі жылі таксама прадстаўнікі заходнябалцкага народа яцвягаў.[19] Яшчэ іх называюць судавы, судовы, судзіны. Першыя звесткі пра гэты народ прыводзіць антычны вучоны Клаўдзій Пталемей /II ст.н.э./ Найбольш старажытныя помнікі яцвягаў вядомы ў паўночна-усходняй Польшчы/II—IV стст./ і паўднёва-заходняй Літве /IV—V стст./. Самыя даўнія помнікі яцвягаў на Брэстчыне датуюцца канцом X — пачаткам XI ст. Гэта так званыя курганы з каменнымі абкладкамі.

многа такіх курганоў выяўлена ў Камянецкім раёне і на поўначы Брэсцкага. Акрамя таго, выяўлены адзін курган каля в. Дзерачная Драгічынскага раёна /сярод курганнай групы ў 20 курганоў/ і адзін курган каля в. Чахец Пружанскага раёна. Праблема ўплываў яцвяжскай мовы на гаворкі Заходняга Палесся не даследавалася.

Вышэй адзначалася, што прыкладна па р. Ясельдзе працяглы час праходзіла этнічная мяжа паміж славянамі і балтамі. Калі гаварыць больш дакладна, дык гэтая мяжа праходзіла трохі на поўнач ад Ясельды, менавіта, па водападзеле паміж Ясельдай і левым прытокам Нёмана: Шчарай /і яе прытокам Грыўдай/, Зяльвянкай і іншымі. У межах гэтага водападзелу знаходзіцца няマала балотных і лясных масіваў. Тут знаходзіцца Спораўскае возера, на паўночным яго беразе вёска Спорава, на ўсход і паўночны ўсход ад возера — Спораўскія балоты. Візантыйскі гісторык VI ст. Пракопій Кесарыйскі паведамляе, што калісьці ў славян /склавінаў і антаў/ было агульнае імя — споры.[20] Зыходзячы з гэтага факта, можна дапусціць, што Спораўскае возера і Спораўскія балоты так названы па старадаўняй назве славян — спорах. Для чаго ўзнікла патрэба так называць гэтыя геаграфічныя аб'екты? Магчыма таму, што на поўначы Заходняга Палесся гэта былі крайнія славянскія аб'екты, а па той тэрміналогіі, якая дайшла да нас дзякуючы Пракопію Кесарыйскаму, — крайнія спораўскія аб'екты /спораўскі — гэта, па сучаснай тэрміналогіі, славянскі/. Патрэба ў такой назве існавала, таму што далей на поўнач знаходзіліся землі, якія належалі іншаму этнасу — балтам.

На поўнач ад Брэсцка-Пінскага Палесся, у Панямонні, жылі балты. Археалагічную культуру штрыхаванай керамікі /VIIст. да н.э.— V ст. н.э./, якая была пашырана на тэрыторыі Панямоння, Цэнтральнай Беларусі, Паўднёва-Усходняй і Цэнтральнай Літвы.[21] Самы блізкі да сучасных меж Бярозаўскага раёна пункт, дзе выяўлены помнікі гэтай культуры, — гэта вёска Вуглы Быценскага сельсавета Івацэвіцкага раёна. Магчыма, адлюстраваннем даўніх кантактаў славян і балтаў у межах гэтага рэгіёна з'яўляецца гідронім Жыгулянка, які, на думку даследчыкаў, з'яўляецца балтыйскім.[22] Жыгулянка — прыток Ясельды, працякае на тэрыторыі Івацэвіцкага і Бярозаўскага раёнаў.

Наяўнасць у Панямонні помнікаў культур тшцінецкай /каля 1500—1100гг. да н.э./, лябёдаўскай /XI–IX — пачатак VIIIстст. да н.э./, мілаградскай /VII—III стст. да н.э./, лужыцкай /каля

X—У стст. да н.э./, зарубінецкай /ІІІст. да н.э. — ІІ ст. н.э./, пшаворскай /каля 125 г. да н.э. — пачатак У ст. н.э./, познезарубінецкай /ІІ—У стст./, банцараўскай /У—УІІІ стст./, у якіх, на думку даследчыкаў, славянскі кампанент або пераважаў, або быў значны,[23] сведчыць аб пранікненні славян у гэты рэгіён. Аднак славянскі моўна-этнічны элемент стаў пераважаць у Панямонні толькі у другой палове І тыс. н.э. Такім чынам, калі ў старажытнасці тэрыторыя Бярозаўскага раёна, асабліва яго паўночная частка, уваходзіла ў зону славянска-балтыйскіх кантактаў, то пазней для гэтага рэгіёна характэрныя кантакты славян Палесся са славянамі Панямоння.

Публікуемы атлас з'яўляецца рэгіянальным дыялектным атласам. Ён уключае тэрыторыю Бярозаўскага раёна і прылягаючыя населеныя пункты раёнаў Драгічынскага, Іванаўскага, Івацэвіцкага, Пружанскага. Сетка атласа складаецца з 83 населеных пунктаў, з іх 59 абследаваны ў Бярозаўскім раёне. Акрамя таго, па кароткай праграме шэраг пунктаў абследаваны дадаткова. . сетку іншых дыялектных атласаў з тэрыторыі Бярозаўскага раёна уключаны ад аднаго да васьмі пунктаў. У Лексічны атлас Заходняга Палесся /Брэсцка-Пінскага і Валынскага/ Ю.Тарнацкага: Равяцічы / 43/, Сялец / 44/, Спорава / 83/.[24] У Дыялекталагічны атлас беларускай мовы: Восаўцы / 681/, Лукомір / 682/, Кабакі / 684/, Горск / 6??/, Батарэя / 688/, Рэчыца / 720/, Старыя Пескі / 721/, Здзітава / 724/.[25] У Агульнаславянскі лінгвістычны атлас: Горск / 363/.[26] У Атлас украінскай мовы: Жычын / 623/, Спорава / 633/, Малое Міжлессе / 363/.[27] У лексічны атлас беларускіх народных гаворак: Сялец / 94 /, Спорава / 94а/, Горск / 45А/.[28]

У славянскім мовазнаўстве стварэнне рэгіянальных дыялектных атласаў мае немалыя традыцыі. Найбольшая колькасць такіх атласаў створана на польскай, украінскай і рускай моўных тэрыторыях.[29] Шэраг рэгіянальных атласаў уключае матэрыял беларускіх гаворак. Вышэй гаварылася пра адзін з іх. Гэта лексічны атлас Заходняга /Брэсцка-Пінскага і Валынскага/ Палесся, створаны польскім даследчыкам Ю.Тарнацкім. Сетка Атласа Ніжняга Надпрыпяцця украінскай даследчыцы Т.В.Назаравай уключае 113 пунктаў, з іх 43 пункты знаходзяцца на тэрыторыі Нараўлянскага і Хойніцкага раёнаў Гомельскай вобласці Беларусі.[30] Апублікаваны два тамы Атласа гаворак цэнтральнай і усходняй Беласточчыны.[31] Гаворкі той тэрыторыі, якую уключае атлас, у значнай ступені з'яўляюцца прылеглым дыялектных масіваў Гродзенскай і Брэсцкай абласцей Беларусі.

Створаны рэгіянальны дыялектны атлас Выганаўскага Палесся /не апублікаваны/.[32] Ён уключае гаворкі паўднёвай часткі Іванэўскага раёна Брэсцкай вобласці /Целяханшчына/, а таксама прылягаючыя гаворкі Пінскага і Ганцаьіцкага раёнаў. Ствараецца дыялектны атлас Тураўшчыны. Аснову яго сеткі складаюць гаворкі паўднёвай часткі Жыткавіцкага раёна Гомельскай вобласці і ўсходняй часткі Столінскага раёна Брэсцкай вобласці.

Стварэнне рэгіянальных дыялектных атласаў заканамерна. Гэтыя атласы даюць даследчыкам многа такіх фактаў, якія не могуць даць атласы агульнанацыянальныя. Можна ўжыць такое параўнанне: калі даследчык "прачытвае" мову нейкага рэгіёна па агульнанацыянальнаму атласу, ён нібы глядзіць няўзброеным вокам, а калі перад ім паўстае рэгіянальны атлас ці мікраатлас, ён нібы ўзбройваецца тэлескопам. Колькасць абследаваных пунктаў павышаецца ў некалькі разоў, а разам з гэтым і магчымасці назіраць за асаблівасцямі мовы, яе ландшафтам, напрамкамі пашырэння пэўных з'яў і адступлення другіх, вынікамі узаемадзеяння розных рыс, рэшткамі асаблівасцей, якія ў мінулым займалі шырокую тэрыторыю і г.д.

Дзякуючы рэгіянальным дыялектным атласам удакладняюцца межы паміж групамі гаворак і асобнымі з'явамі.

У Бярозаўскім раёне пашыраны гаворкі чатырох дыялектных груп: верхнясельдская, стрыгінская, малецкая і паўночназагародская. Малецкая група была выдзелена І.І.Зенько,[33] верхнясельдская і паўночназагародская — Ф.Д.Клімчуком,[34] стрыгінская група выдзелена Л.В.Леванцэвіч на матэрыяле гэтага атласа. Стрыгінскія гаворкі бытуюць больш чым у 20-ці пунктах Бярозаўскага раёна. Да гэтай групы адносіцца і традыцыйная гаворка г. Бярозы. Аднак з-пад увагі даследчыкаў гаворкі гэтага тыпу пеяк "выпадалі", тыя з іх , якія былі абследаваны для папярэдніх атласаў /вв. Сялец, Рачыца/, лічыліся астраўнымі. Выдзяленне стрыгінскай групы стала магчымае дзякуючы публікуемаму атласу. Матэрыялы атласа далі таксама магчымасць удакладніць межы паміж іншымі групамі гаворак.

[1] Кухаренко Ю.В. Древнее Полесье. Аўтарэф. докт. дис. М.: 1965. Яго ж. Полесье и его место в процессе этногенеза славян /По материалам археологических исследований/ // Полесье /Лингвистика. Археология. Топонимика/. М.: Наука, 1968. С. 18—46. Толстой Н.И. О лингвистическом изучении Полесья /предисловие

редактора/ // Полесье... С. 5—17. Лексіка Палесся ў прасторы і часе. Рэд. В.У.Мартынаў. Аўтары: Г.Ф.Вештарт, Л.Ц.Выгонная, І.І.Лучыц-Федарэц, В.У.Мартынаў. Мінск: Навука і тэхніка, 1971.

2 Исаенко В.Ф. Археологическая карта Белоруссии. Выпуск 3. Памятники бронзового века. Минск: Полымя, 1976. С 10, 17-19. Поболь Л.Д. Археологические памятники Белоруссии. Железный век. Минск: Наука и техника, 1983. С. 8-55, 95-96, 100-101, 102-103, 114-115.

3 Кухаренко Ю.Ф. Средневековые памятники Полесья. Археология //Археология СССР. Свод археологических источников. Выпуск Е1-57. М.: Изд-во АН СССР, 1961. С. 16-17. Штыхов Г.В. Археология Белоруссии. Выпуск 2. Памятники железного века и эпохи феодализма. Минск: Полымя, 1971. С. 15. Поболь Л.Д. Археологические памятники...С. 95-96.

4 Брайчевський М.Ю. Походження Русі. Київ: Наукова думка, 1968. С. 80, 91-93.

5 Климчук Ф.Д. Нервяне-вервияне. // Славяне и их соседи. Место взаимных влияний в процессе общественного и культурного развития. Эпоха феодализма. /Сборник тезисов/. М., 1988. С. 41-42.

6 Седов В.В. Славяне Верхнего Поднепровья и Подвинья. М.: Наука, 1970. С. 82-85.

7 Седов В.В. Славяне Верхнего Поднепровья... Рис. 18. С. 80-81.

8 Седов В.В. Славяне Верхнего Поднепровья... С. 81-82.

9 Лысенко П.Ф. Дреговичи. Минск: Наука и техника, 1991. С. 100.

10 Лысенко П.Ф. Дреговичи... С. 56.

11 Разлік зроблены па: Лысенко П.Ф. Дреговичи... С. 56-63.

12 Брайчевський М.Ю. Походження Русі... С. 97-99.

13 Кухаренко Ю.В. Полесье и его место... С. 30, 42.

14 Дучыц Л.У. Этнічная карта Беларусі XI—XIIIстст. /па археалагічных матэрыялах касцюма/ // Гістарычна-археалагічны зборнік. Ч. І. Мінск, 1993. С. 69.

15 Кухаренко Ю.В. Полесье и его место... С. 30.

16 Лысенко П.Ф. Дреговичи... С. 96-97.

17 Кухаренко Ю.В. Средневековые памятники... С. 10-11, таблица 2.

Бируля И.В. Северная граница распространения "парных" курганов // Археологические открытия 1965г. М.: Наука, 1966. С. 140-142.

18 Седов В.В. Восточные славяне в VI--XIIIвв. // Археология СССР. М.: Наука, 1982. С 119.

19 Финно-угры и балты в эпоху средневековья // Археология СССР. М.: Наука, 1987. С. 411-419.

20 Свод древнейших письменных известий о славянах. Том I /I--VIв./ М., 1991. С. 132, 185, 228.

21 Седов В.В. Славяне Верхнего Поднепровья... С. 18-25. Поболь Л.Д. Археологические памятники... С. 17, 104.

22 Жучкевич В.А. Топонимический словарь Белоруссии. Минск: Изд-во БГУ, 1974. С. 123.

23 Чарняускі М. Бронзавы век на тэрыторыі Беларусі. Мінск: Народная асвета, 1981. С. 4-5. Поболь Л.Д. Археологические памятники... С. 8-59. Археология Украинской ССР. Том I. Киев: Наукова думка, 1985. С. 445-450.

24 **Tarnacki J. Podział językowy Polesia na podstawie faktow leksikalnych. Warszawa, 1936.**

25 Дыялекталагічны атлас беларускай мовы. Мінск: Выд-ва АН БССР, 1963. С. 51.

26 Общеславянский лингвистический атлас. Вступительный выпуск. Общие принципы. Справочные материалы. М.: Наука, 1978. С. 143.

27 Атлас української мови. Том 2. Волинь, Наддністрянщина, Закарпаття і суміжні землі. Київ: Наукова думка, 1988. С. 99-100.

28 Лексічны атлас беларускіх народных гаворак. Т. I. Раслінны і жывёльны свет. Мінск, 1993.

29 Атлас русских народных говоров центральных областей к востоку от Москвы. М.: Изд-во АН СССР, 1957. Бернштейн С.Б. и др. Карпатский диалектологический атлас. М., 1967. Ващенко В.С. Лінгвістична географія Наддніпрянщини. Лексичні матеріали. Дніпропетровськ, 1968. Войтенко А.Ф. Лексический атлас Московской области. М., 1991. Ганудель З.Т. Лінгвістичний атлас українських говорів Східно Словаччини. Пряшів, 1981. Дзендзелівський Й. О. Лінгвістичний атлас українських народних

говорів Закарпатської області УРСР /лексика/. Ч. І, ІІ. // Наукові записки Ужгородського державного університету. Т. XXXIУ вип. 3, Т. XIII, вип. 4, 1958 — 1960. Лизанець П.М. Атлас лексичних мадьяризмів та їх відповідників в українських говорах Закарпатської області УРСР. Ужгород. Ч. І, 1970. Ч. ІІІ, ІІІ, 1976. Його ж: Атлас лексичних мадьяризмів та їх відповідників в українських говорах Закарпатської області УРСР. Ч. ІІ // Лизанец П.Н. Венгерские заимствования в украинских говорах Закарпатья. Будапешт: Изд-во АН Венгрии, 1976. Мальцев М.Д., Филин Ф.П. Лингвистический атлас района озера Селигер. М.-Л.: Изд-во АН СССР, 1949. Мельниченко Г.Г. Некоторые лексические группы в современных говорах на территории Владимиро-Суздальского княжества XII — начала XIII вв. Территориальное распространение, семантика и словообразование. Ярославль, 1974. Никончук М.В. Матеріали до лексичного атласу української мови /Правобережне Полісся/. Київ: Наукова думка, 1979. Його ж: Сільськогосподарська лексика Правобережного Полісся. Київ: Наукова думка, 1985. Никончук М.В. Никончук О.М. Ендемічна лексика Житомирщини. Житомир, 1989. Їх же: Транспортна лексика Правобережного Полісся в системі східнослов'янських мов. Київ: Наукова думка, 1990. Территориальное варьирование русского языка в Башкирии. Уфа, 1977.

Atlas gwar bojkowskich. T. 1-5. Wrocław, 1980-1985.

Atlas językowy Kaszubszczyzny i dialektów sąsiednich. Tom wstępny; z. I-XV. Wrocław-Warszawa-Kraków-Gdańsk, 1964-1976.

Dejna K. Polsko-laskie pogranicze językowe na terenie Polski. T. 1-2. Łódź, 1951-1953.

Gwary ukraińskie Tarnopolszczyzny. Wrocław, 1957.

Atlas gwarowy województwa kieleckiego. Z. 1-6. Łódź-Wrocław, 1962-1968. Horodyska-Gadkowska H., Strzyżewska-Zaremba A. Atlas gwar mazowieckich. T. I. Wrocław, 1971. Kowalska A. Zróżnicowanie słowotwórcze gwar Mazowsza i Podlasia. Rzeczownik. T. I-II. Wrocław-Warszawa-Kraków-Gdańsk, 1975-1979. Kowalska A., Strzyżewska Zaremba A. Atlas gwar mazowieckich. T. II-V, 1973-1980. Małecki M., Nitsch K. Dialekty polskie Śląska. Kraków, 1939. Sobierajski Z. Atlas polskich gwar spiskich na terenie Polski i Czechosłowacji. T. 1-4. Poznań, 1966-1977. Stieber Z.

Atłas językowy dawnej Łemkowszczyzny. Z. 1 — 8. Łódź, 1956 — 1964. Яго ж: Izoglosy gwarowe na obszarze dawnych województw łęczyckiego i sieradzkiego. Kraków, 1933. Studia nad dialektologią ukraińską i polską // Prace językoznawcze. Z. 44. Kraków Warszawa, 1975.

/У выпуску прыводзіцца дыялектны матэрыял, сабраны ў 30-я гады XX ст. для складання атласа украінскіх гаворак у Польшчы; уключаны словы, запісаныя ў вёсцы Брашэвічы Драгічынскага раёна Брэсцкай вобласці; змешчана некалькі дыялектных карт/. Zagórski Z. i inni. Mały atlas językowy gorzowskiego. T. I. Poznań, 1992. Zaręba A. Atlas językowy Śląska. T. I-VI. Kraków, 1969 1980.

30 Назарова Т.В. Лінгвістичний атлас Нижньої Прип'яті. Київ: Наукова думка, 1985.

31 Atlas gwar wschodniosłowiańskich Białostocczyzny. T. I // Prace Slawistyczne, nr 14. Wrocław Warszawa Kraków Gdańsk, 1980. T. 2 //Prace Slawistyczne, nr 17. Wrocław Warszawa Kraków Gdańsk Łódź, 1989.

32 Самуйлік Я.Р. Дыялектны мікраатлас Выганаўскага Палесся. Дадатак да дыпломнай работы студэнта У курса аддзялення беларускай і рускай мовы і літаратуры філалагічнага факультэта БДУ Самуйліка Я.Р. "Прынцыпы складання дыялекталагічнага мікраатласа Выганаўскага Палесся". Мінск, 1986.

33 Зенько І.І. Важнейшыя асаблівасці фанетычнай сістэмы і граматычнага ладу гаворак Пружанскага раёна Брэсцкай вобласці // Працы Інстытута мовазнаўства АН БССР. Выпуск III. Мінск: Выд-ва АН БССР, 1957. С. 145--158.

34 Клімчук Ф.Д. Гаворкі Заходняга Палесся. Фанетычны нарыс. Мінск: Навука і тэхніка, 1963. С. 10, 24--25, 38--39.

Ф. Д. Клімчук

Звесткі аб абследаваных
населеных пунктах[1]

1. Варанілавічы /мясц.: Варанілавічы; жыхары: варані́лаўцы, варані́лаўка, варані́лавец/ Варанілавіцкі с/с Івацэвіцкі р-н. Інфарматары: Грысюк Ганна Міхайлаўна, 1929г. Абследавала Леванцэвіч Л.В., жнівень, 1990г. У 1921г. налічвалася 35 двароў, 145 жыхароў, праваслаўныя.

2. Квасевічы /мясц.: Квасевічы; жыхары: із Квасевіч/ Верашкоўскі с/с Івацэвіцкі р-н. Інфарматары: Сарока Надзея Іванаўна, 1901г. Абследавала Леванцэвіч Л.В., жнівень 1990г. У 1921г. налічвалася 79 двароў, 407 жыхароў, праваслаўныя.

3. Гошчава /мясц.: Гошчава; жыхары: з Гошчава/ Стайкаўскі с/с Івацэвіцкі р-н. Інфарматары: Александровіч Вера Паўлаўна, 1921г. Абследавала Леванцэвіч Л.В., жнівень 1990г. У 1921г. налічвалася 130 двароў, 809 жыхароў, з іх 761 праваслаўны, 38 католікаў, 9 іудзеяў, 1 евангеліст.

4. Стайкі /мясц.: Стайкі; жыхары: ста́йкаўцы, ста́йкавец, ста́йкаўка/ Стайкаўскі с/с Івацэвіцкі р-н. Інфарматары: Селюк Марыя Іванаўна, 1918г. Абследавала Леванцэвіч Л.В., жнівень 1990г. У 1921г. налічвалася 74двары, 365 жыхароў, праваслаўныя.

5. Панасавічы /мясц.: Панасовічы; жыхары: панасо́ўцы, панасо́вец, панасо́ўка/ Сялецкі с/с Бярозаўскі р-н. Інфарматары: Чаплінская Вера Іванаўна, 1924г. Абследавала Леванцэвіч Л.В., чэрвень 1991г. У 1921г. налічвалася 23 двары, 80 жыхароў, праваслаўныя.

6. Сашыца /мясц.: Сошыца; жыхары: с Сошыцы/ Сялецкі с/с Бярозаўскі р-н. Інфарматары: Шкабаро Пелагея Васільеўна, 1899г. Абследавала Леванцэвіч Л.В., чэрвень 1991г. У 1921г. налічвалася 69 двароў, 452 жыхары, з іх 445 праваслаўных, 7 католікаў.

7. Сялец /мясц.: Селец; жыхары: селеча́нцы, селеча́нец, селеча́нка/ Сялецкі с/с Бярозаўскі р-н. Інфарматары: Тарасевіч Марыя Мікалаеўна, 1917г. Абследавала Леванцэвіч Л.В., чэрвень 1991г. У 1921г. налічвалася 172 двары, 1018 жыха́роў, з іх 442 праваслаўныя, 288 католікаў, 238 іудзеяў.

8. Нарутавічы /мясц.: Нарутовічы; жыхары: наруто́ўцы, наруто́вец, наруто́ўка/ Нарутавіцкі с/с Бярозаўскі р-н. Інфарматары: Скробат Марыя Міхайлаўна. Абследавала Шкабаро Н., чэрвень 1990г. У 1921г. налічвалася 13 двароў, 73 жыхары, з іх 62 праваслаўныя, 9 католікаў, 2 іудзеі.

9. Осаўшы /мясц.: Осаўцы; жыхары: осоуляне, осоулянін, осоулянка/ Нарутавічкі с/с Бярозаўскі р-н. Інфарматары: Бернік Соф'я Нікіфараўна, 1915г., Білецкая Тацяна Аляксееўна, 19?0г. Абследавала Шкабаро Н., чэрвень 1990г. У 1921г. налічвалася 38 двароў, 125 жыхароў, з іх 17 праваслаўных, 21 каталік.

10. Кабакі /мясц.: Кабакі; жыхары: кабакоўцы, кабаковец, кабачка/ Першамайскі с/с Бярозаўскі р-н. Інфарматары: Веляндейчык Марыя Сцяпанаўна, 1915г. Абследавала Леванцэвіч Л.В., ліпень 1989г. У 1921г. налічвалася 55 двароў, 312 жыхароў, з іх 294 праваслаўныя, 14 католікаў, 4 евангелісты.

Жычын /мясц.: Жычын/ Першамайскі с/с Бярозаўскі р-н. Інфарматары: Рошык Марыя Паўлаўна, 1900г. Абследавала Леванцэвіч Л.В., ліпень 1989г. У 1921г. налічвалася 42 двары, 298 жыхароў, з іх 294 праваслаўныя, 4 іудзеі. Жыхары: жычынцы, жычынэц, жычынка.

12. Ціхны /мясц.: Тіхны; ціхноўцы, ціхновец, ціхноўка/ Першамайскі с/с Бярозаўскі р-н. Інфарматары: Заранка Ульяна Сідараўна, 1898г. Абследавала Леванцэвіч Л.В., ліпень 1989г. У 1921г. налічвалася 31 двор, 212 жыхароў, з іх 201 праваслаўны, 11 католікаў.

13. Мормажава /мясц.: Морможэво; жыхары: мормажоўцы, мормажовэц, мормажоўка/ Бярозаўскі с/с Бярозаўскі р-н. Інфарматары: Северын Вольга Паўлаўна, 1931г. Абследавала Леванцэвіч Л.В., ліпень 1992г. У 1921г. налічвалася 12 двароў, 70 жыхароў, з іх 52 праваслаўныя, 18 католікаў.

14. Лозава /мясц.: Лозово; жыхары: з Лозова/ Бярозаўскі с/с Бярозаўскі р-н. Інфарматары: Сеген Марыя Іванаўна, 1929г. Абследавала Леванцэвіч Л.В., ліпень 1992г. У 1921г. налічвалася 23 двары, 111 жыхароў, з іх 44 праваслаўныя, 67 католікаў.

15. Падоссе /мясц.: Подоссе; жыхары: подосовцы, подосовэц, подосовка/ Бярозаўскі с/с, Бярозаўскі р-н. Інфарматары: Пучкоўская Еўлакія Васільеўна, 1928г. Абследавала Леванцэвіч Л.В., чэрвень 1990г. У 1921г. налічвалася 94 двары, 358 жыхароў, з іх 172 праваслаўныя, 181 каталік.

16. Бяроза /мясц.: Біроза; жыхары: біро́зовцы, біро́зовэц, біро́зовка/ Бярозаўскі с/с Бярозаўскі р-н. Інфарматары: Варабей Ганна Іванаўна, 1913г., Ваўчок Ганна Паўлаўна, 1920г. Абследавала Леванцэвіч Л.В., чэрвень 1990г. У 1921г. налічвалася 484 двары, 3 528 жыхароў, з іх 600 праваслаўных, 761 каталік, 2 163 іудзеі, 2 яўрэі.

17. Бронная Гара /мясц.: Бронная Гора; жыхары: броннс órцы, броннoгýрэц, броннoгýрка/ Сакалоўскі с/с Бярозаўскі р-н. Інфарматары: Буранка Вольга Пятроўна, 1929г. Абследавала Леванцэвіч Л.В., май 1992г. У 1921г. налічвалася 4 двары, 16 жыхароў, з іх 8 праваслаўных, 5 католікаў, 3 іудзеі.

18. Сакалова /мясц.: Соколово; жыхары: соколóвцы, соколóвэц, соколóвка/ Сакалоўскі с/с Бярозаўскі р-н. Інфарматары: Жук Надзея Паўлаўна, 1931г., Сарока Ганна Дзям'янаўна, 1931г. Абследавала Леванцэвіч Л.В., люты 1989г. У 1921г. налічвалася 136 двароў, 677 жыхароў, з іх 645 праваслаўныя, 32 католікі.

19. Рэчыца /мясц.: Рычыца; жыхары: рычы́чанцы, рычы́чанэц, рычы́чанка/ Сакалоўскі с/с Бярозаўскі р-н. Інфарматары: Матусевіч Сцепаніда Іванаўна, 1906г. Абследавала Леванцэвіч Л.В., чэрвень 1989г. У 1921г. налічвалася 84 двары, 431 жыхар, з іх 424 праваслаўныя, 6 католікаў, 1 іудзей.

20. Лукомер /мясц.: Лукомер; жыхары: лукóмерцы, лукомерча́нін, лукомерча́нка/ Малецкі с/с Бярозаўскі р-н. Інфарматары: Гладышчук Вера Іванаўна, 1929г. Абследавала Леванцэвіч Л.В., ліпень 1989г. У 1921г. налічвалася 4 двары, 26 жыхароў, праваслаўныя /уключалася ў вёску Малеч/.

21. Малеч /мясц.: Малеч; жыхары: мальчукі́, мальчу́к, мальчу́чка/ Малецкі с/с Бярозаўскі р-н. Інфарматары: Сакалоўская Марыя Паўлаўна, 1927г., Свідуновіч Ганна Яўгенаўна, 1930г. Абследавала Леванцэвіч Л.В., май 1990г. У 1921г. налічвалася 135 двароў, 838 жыхароў, з іх 447 праваслаўных, 4 католікі, 387 іудзеяў.

22. Падкраічы /мясц.: Подкраічи; жыхары: с Подкраіч/ Малецкіс/с Бярозаўскі р-н. Інфарматары: Хлябец Ганна Васільеўна, 1931г. Абследавала Леванцэвіч Л.В., жнівень 1990г. У 1921г. налічвалася 29 двароў, 130 жыхароў, праваслаўныя.

23. Бармуты /мясц.: Бармуты; жыхары: бармутóвцы, бармутóвэц, бармутóвка/ Сігневіцкі с/с Бярозаўскі р-н. Інфарматары: Вашкевіч Еўдакія Іванаўна, 1903г., Зубар Вера Іванаўна, 1921г. Абследавала Леванцэвіч Л.В., ліпень 1990г. У 1921г. налічвалася 26 двароў, 179 жыхароў, з іх 176 праваслаўных, 3 католікі.

24. Равяцічы /мясц.: Рэвятічы; жыхары: рэвя́тічцы, рэвя́тічэц, рэвя́тічка/ Сігневіцкі с/с Бярозаўскі р-н. Інфарматары: Антончык Алена Сцяпанаўна, 1912г., Грынкевіч Надзея Пятроўна, 1930г. Абследавала Леванцэвіч Л.В., жнівень 1992г. У 1921г. налічвалася 56 двароў, 237 жыхароў, з іх 201 праваслаўны, 22 католікі, 13 іудзеяў, 1 евангеліст.

25. Сігневічы /мясц.: Сігневічы; жыхары: із Сігневіч/ Сігневіцкі с/с Бярозаускі р-н. Інфарматары: Каштальян Марыя Рыгорауна, 1913г. Абследавала Шаукаловіч А.С., снежань 1991г. У 1921г. налічвалася 100 двароу, 494 жыхары, з іх 41 праваслауны, 443 католікі, 10 іудзеяу.

26. Мар'янова /мясц.: Мар'яново: жыхары: мар'янóвцы, мар'янóвка, мар'янóвец/ Сігневіцкі с/с Бярозаускі р-н. Інфарматары: Новік Сцепаніда Антонауна, 1919г. Абследавала Леванцэвіч Л.В., чэрвень 1990г. У 1921г. налічвалася 3. двароу, 154 жыхары, з іх 50 праваслауных, 104 католікі.

27. Сабалі /мясц.: Соболі; жыхары: соболёуцы, соболёвэц, соболёука/ Сігневіцкі с/с Бярозаускі р-н. Інфарматары: Бялецкая Вольга Іванауна, 1929г., Далудко Марыя Іванауна, 1924г. Абследавала Леванцэвіч Л.В., лістапад 1990г. У 1921. налічвалася 54 двары, 254 жыхары, з іх 246 праваслауных, 8 іудзеяу.

28. Ястрабель /мясц.: Ястрэбэль; жыхары: з Ястрабля, ястрэбэльскія/ Сігневіцкі с/с Бярозаускі р-н. Інфарматары: Курыловіч Марыя Васільеуна, 1927г. Абследавала Леванцэвіч Л.В., кастрычнік 1990г. У 1921г. налічвалася 50 двароу, 250 жыхароу, з іх 199 праваслауных, 46 католікау, 5 іудзеяу.

29. Угляны /мясц.: Угляны; жыхары: углянцы, углянэц, углянчыха/ Углянскі с/с Бярозаускі р-н. Інфарматары: Раманюк Вольга Пятроуна, 1929г. Абследавала Леванцэвіч Л.В., ліпень 1992г. У 1921г. налічвалася 131 двор, 678 жыхароу, з іх 92 праваслауныя, 586 католікау.

30. Здзітава /мясц.: Здзітава; жыхары: здзíтауцы, здзітавéц, здзíтаука/ Углянскі с/с Бярозаускі р-н. Інфарматары: Чалюк Ніна Васільеуна, 1933г. Абследавала Леванцэвіч Л.В., ліпень 1989г. У 1921г. налічвалася 45 двароу, 237 жыхароу, з іх 12 праваслауных, 225 католікау.

31. Дзягелец /мясц.: Дзягелец; жыхары: дзягельчукí, дзягэльчýк, дзягэльчýчка/ Углянскі с/с Бярозаускі р-н. Інфарматары: Мартынюк Ганна Паулауна, 1930г. Абследавала Леванцэвіч Л.В., ліпень 1989г. У 1921г. налічвалася 78 двароу, 385 жыхароу, з іх 285 праваслауных, 100 католікау.

32. Шылінок /мясц.: Шылінок; жыхары: шылінкóвцы, шылінкóвэц, шылінкóвка/ Углянскі с/с Бярозаускі р-н. Інфарматары: Курыловіч Наталля Іванауна, 1933г., Свідуновіч Вольга Даям'янауна, 1899г. Абследавала Леванцэвіч Л.В., май 1993г. У 1921г налічва-

лася 50 двароў, 251 жыхар, праваслаўныя.

Шылін /мясц.: Шылін; жыхары: шылінцы, шылінэц, шылінка/ Углянскі с/с Бярозаўскі р-н. Інфарматары: Кананенка Марыя Іванаўна, 1927г. Абследавала Кананенка Т.М., май 1992г. У 1921г. налічвалася 89 двароў, 438 жыхароў, з іх 428 праваслаўныя, 10 іудзеяў.

33. Машковічы /мясц.: Мошковычы; жыхары: мошкўвцы, мошкўэц, мошкўвка/ Углянскі с/с Бярозаўскі р-н. Інфарматары: Анолька Марыя Васільеўна, 1927г., Кузьмінчук Ганна Іванаўна, 1926г. Абследавала Леванцэвіч Л.В., жнівень 1989г. У 1921г. налічвалася 25 двароў, 157 жыхароў, праваслаўныя.

34. Стрыгінь /мясц.: Стрыгінь; жыхары: стрыгіньцы, стрыгінэц, стрыгінька/ Стрыгінскі с/с Бярозаўскі р-н. Інфарматары: Грынько Зоя Пятроўна, 1930г. Абследавала Леванцэвіч Л.В., май 1991г. У 1921г. налічвалася 183 двары, 1016 жыхароў, з іх 1008 праваслаўных, 2 католікі, 6 іудзеяў.

35. Савіно /мясц.: Совыно; жыхары: совінцы, совінэц, совінка/ Стрыгінскі с/с Бярозаўскі р-н. Інфарматары: Кулік Пелагея Пятроўна, 1900г. Абследавала Леванцэвіч Л.В., жнівень 1992г. У 1921г. налічвалася 57 двароў, 316 жыхароў, з іх 291 праваслаўны, 25 католікаў.

36. Галавіцкае /мясц.: жыхары: головічанцы, головічанэц, головічанка/ Стрыгінскі с/с Бярозаўскі р-н. Інфарматары: Ківатыцкая Ганна Міхайлаўна, 1892г. Абследавала Леванцэвіч Л.В., ліпень 1991г. У 1921г. налічвалася 50 двароў, 297 жыхароў, з іх 296 праваслаўных, 1 каталік.

37. Нівы /мясц.: Нывы; жыхары: нывлякі, нывлянэц, нывлянка/ Белаазёрскі с/с Бярозаўскі р-н. Інфарматары: Водзіч Марыя Паўлаўна, 1920г., Кузьмінчук Вольга Раманаўна, 1917г. Абследавала Леванцэвіч Л.В., чэрвень 1990г. У 1921г. налічвалася 135 двароў, 699 жыхароў, з іх 663 праваслаўныя, 4 католікі, 32 іудзеі.

38. Альшэва /мясц.: Ольшэво; жыхары: ольшывцы, ольшычка, ольшивэц/ Белаазёрскі с/с Бярозаўскі р-н. Інфарматары: Навацкая Марыя Іванаўна, 1903г. Абследавала Леванцэвіч Л.В., май 1990г. У 1921г. налічвалася 6 двароў, 41 жыхар, з іх 10 праваслаўных, 31 іудзей.

39. Ніўкі /мясц.: Нывкі; жыхары: з Нывок/ Белаазёрскі с/с Бярозаўскі р-н. Інфарматары: Завадская Ніна Якаўлеўна, 1930г. Абследавала Леванцэвіч Л.В., май 1990г. У 1921г. налічвалася

44 двары, 251 жыхар, з іх 211 праваслаўных, 40 іудзеяў.

40. Маневічы /мясц.: Мановычи; жыхары: мановичанцы, мановичанэц, мановичанка/ Белаазёрскі с/с Бярозаўскі р-н. Інфарматары: Казека Марыя Пятроўна, 1919г. Абследавала Леванцэвіч Л.В., ліпень 1991г. У 1921г. налічвалася 35 двароў, 128 жыхароў, з іх 122 праваслаўныя, 6 іудзеяў.

41. Лісічнцы /мясц.: Лысычычы; жыхары: лысичанцы, лысичанэц, лысичанка/ Белаазёрскі с/с Бярозаўскі р-н. Інфарматары: Галеўчук Ганна Паўлаўна, 1912г. Абследавала Леванцэвіч Л.В., чэрвень 1989г. У 1921г. налічвалася 77 двароў, 324 жыхары, з іх 308 праваслаўных, 16 іудзеяў.

42.Хрыса /мясц.: Хрысо; жыхары: хрышукі, хрышук, хрышучка/ Белаазёрскі с/с Бярозаўскі р-н. Абследавала Леванцэвіч Л.В., жнівень 1991г. Інфарматары: Брэнковіч Ніна Міхайлаўна, 1927г. У 1921г. налічвалася 141 двор, 788 жыхароў, праваслаўныя.

43. Вайцяшыч /мясц.: Войтішын; жыхары: войтяшанцы, войтяшанэц, войтяшанка/ Пескаўскі с/с Бярозаўскі р-н. Інфарматары: Мацяш Ганна Іванаўна, 1906г. Абследавала Місоўская Т., чэрвень 1989г. У 1921г. налічвалася 79 двароў, 430 жыхароў, праваслаўныя.

44. Ярцавічы /мясц.: Ярцывічы; жыхары: ярцовцы, ярцовэц, ярцовка/ Пескаўскі с/с Бярозаўскі р-н. Інфарматары: Мельнікава Зоя Міхайлаўна, 1929г. Абследавала Леванцэвіч Л.В., жнівень 1991г. У 1921г. налічвалася 82 двары, 484 жыхары, з іх 478 праваслаўных, 6 іудзеяў.

45. Пескі /мясц.: Піскі; жыхары: пісочанцы, пісочанэц, пісочанка/ Пескаўскі с/с Бярозаўскі р-н. Інфарматары: Саўчук Надзея Фёдараўна, 1935г., Брэнковіч Ганна Герасімаўна, 1929г. Абследавала Леванцэвіч Л.В., май 1991г. У 1921г. налічвалася 330 двароў, 1847 жыхароў, з іх 1778 праваслаўных, 41 католік, 28 іудзеяў.

46. Міхалкі /мясц.: Міхалкі; жыхары: міхалковцы, міхалковец, міхалковка/ Боркаўскі с/с Бярозаўскі р-н. Інфарматары. Северын Вольга Андрэеўна, 1931г. Абследавала Леванцэвіч Л.В., жнівень 1990г. У 1921г. налічвалася 57 двароў, 242 жыхары, з іх 238 праваслаўных, 4 іудзеі.

47. Боркі /мясц.: Боркі; жыхары: борковцы, з Борок/ Боркаўскі с/с Бярозаўскі р-н. Інфарматары: Водзіч Зоя Іванаўна, 1907г., Шчэрба Надзея Паўлаўна, 1903г. Абследавала Леванцэвіч Л.В., ліпень 1991г. У 1921г. налічвалася 48 двароў, 252 жыхары, з іх

231 праваслаўны, 21 католік.

48. Пешкі /мясц.: Пешкі; жыхары: пе́шковцы, пе́шковэц, пе́шковка/ Боркаўскі с/с Бярозаўскі р-н. Інфарматары: Галаванчук Надзея Барысаўна, 1921г. Абследавала Леванцэвіч Л.В., сакавік 1991г. У 1921г. налічвалася 65 двароў, 300 жыхароў, з іх 287 праваслаўных, 1 католік, 1 іудзей.

49. Чарнякова /мясц.: Чэрняков; жыхары: чэрнякóвцы, чэрнякóвэц, чэрнякóвка/ Боркаўскі с/с Бярозаўскі р-н. Інфарматары: Жмянько Соф'я Антонаўна, 1920г. Абследавала Северын Т., снежань 1991г. У 1921г. налічвалася 5 двароў, 27 жыхароў, з іх 20 праваслаўныя, 7 католікаў.

50. В.Лясковічы /мясц.: Лысковычы; жыхары: з Лысковыч/ Боркаўскі с/с Бярозаўскі р-н. Інфарматары: Стрыга Марыя Васільеўна, 1923г., Барук Вольга Пятроўна, 1924г. Абследавала Северын Т., снежань 1991г. У 1921г. налічвалася 103 двары, 527 жыхароў, з іх 507 праваслаўных, 20 іудзеяў.

51. Еленова /мясц.: Галеново; жыхары: галінóвцы, галінóвэц, галінóвка/ Міжлескі с/с Бярозаўскі р-н Інфарматары: Пыцель Людміла Рыгораўна, 1932г. Абследавала Леванцэвіч Л.В., чэрвень 1990г. У 1921г. налічвалася 58 двароў, 310 жыхароў, праваслаўныя.

52. Касцюкі /мясц.: Костюкі; жыхары: костюкóвцы, костюкóвэц, костюкóвка/ Міжлескі с/с Бярозаўскі р-н. Інфарматары: Гардзейчук Ніна Фёдараўна, 1926г. Абследавала Леванцэвіч Л.В., чэрвень 1990г. У 1921г. налічвалася 91 двор, 472 жыхары, з іх 462 праваслаўныя, 3 каталікі, 7 іудзеяў.

53. Міжлессе /мясц.: Левковычы; жыхары: лівкóвцы, лівкóвэц, лівкóвка/ Міжлескі с/с Бярозаўскі р-н. Інфаматары: Балабановіч Ірына Дзянісаўна, 1927г. Абследавала Леванцэвіч Л.В., чэрвень 1990г. У 1921г. налічвалася 138 двароў, 777 жыхароў, з іх 751 раваслаўны, 12 католікаў, 14 іудзеяў.

54. Матвеевічы /мясц.: Матіёвычы; жыхары: матіёвцы, матіёвэц, матіёвка/ Міжлескі с/с Бярозаўскі р-н. Інфарматары: Трафімук Надзея Паўлаўна, 1928г. Абследавала Леванцэвіч Л.В. чэрвень 1990г. У 1921г. налічвалася 36 двароў, 213 жыхароў, з іх 195 праваслаўных, 18 католікаў.

55. Батарэя /мясц.: Батарэя; жыхары: з Батарэі/ Міжлескі с/с Бярозаўскі р-н. Інфарматары: Казак Марыя Васільеўна, 1923г. Абследавала Леванцэвіч Л.В., верасень 1990г. У 1921г. налічва-

лася 29 двароў, 176 жыхароў, з іх 171 праваслаўны, 5 іудзеяў.

56. Стаўкі /мясц.: Ставкі; жыхары: з Ставок/ Міжлескі с/с Бярозаўскі р-н. Інфарматары: Казека Ніна Матвееўна, 1927г. Абследавала Казак Л.М., верасень 1990г. У 1921г. налічвалася 78 двароў, 313 жыхароў, з іх 291 праваслаўны, 3 каталікі, 18 іудзеяў.

57. Судзілавічы /мясц.: Судыловычы; жыхары: судыловцы, судыловэц, судыловка/ Міжлескі с/с Бярозаўскі р-н. Інфарматары: Новік Аляксандра Васільеўна, 1916г. Абследавала Новік М.І., лістапад 1990г. У 1921г. налічвалася 68 двароў, 353 жыхары, праваслаўныя.

58. Перасудавічы /мясц.: Пырысудовычы; жыхары: пырысудовцы, пырысудовэц, пырысудовка/ Высоцкі с/с Бярозаўскі р-н. Інфарматары: Дзюрыч Марыя Іванаўна, 1901г. Абследавала Леванцэвіч Л.В., ліпень 1990г. У 1921г. налічвалася 70 двароў, 376 жыхароў, з іх 372 праваслаўныя, 4 каталікі.

59. Пузі /мясц.: Пузі; жыхары: з Пузей/ Высоцкі с/с Бярозаўскі р-н. Інфарматары: Бартноўская Марыя Барысаўна, 1921г. Абследавала Леванцэвіч Л.В., ліпень 1990г. У 1921г. налічвалася 44 двары, 274 жыхары, праваслаўныя.

60. Мастыкі /мясц.: Мостыкі; жыхары: мостычанэ, мостычанэц, мостычанка/ Высоцкі с/с Бярозаўскі р-н. Інфарматары: Карпік Валянціна Мікалаеўна, 1933г. Абследавала Леванцэвіч Л.В., ліпень 1990г. У 1921г. налічвалася 38 двароў, 230 жыхароў, з іх 222 праваслаўныя, 5 каталікаў, 3 іудзе..

61. Здзітава /мясц.: Здытово: жыхары: здытовцы, здытовэц, здытовка/ Спораўскі с/с Бярозаўскі р-н. Інфарматары: Чайчыц Ганна Герасімаўна, 1901г. Абследавала Леванцэвіч Л.В., студзень 1989г. У 1921г. налічвалася 189 двароў, 960 жыхароў, з іх 953 праваслаўныя, 5 каталікаў, 2 іудзеі.

62. Горбава /мясц.: Горбув; жыхары: здытовцы, здытовэц, здытовка/ Спораўскі с/с Бярозаўскі р-н. Інфарматары: Васілеўская Алена Аляксандраўна, 1901г. Абследавала Леванцэвіч Л.В., студзень 1989г. У 1921г. налічвалася 54 двары, 331 жыхар, з іх 324 праваслаўныя, 7 іудзеяў.

63. Спорава /мясц.: Спорово; жыхары: споровцы, споровэц, споровка/ Спораўскі с/с Бярозаўскі р-н. Інфарматары: Ваўчок Марыя Антонаўна, 1892г. Абследавала Леванцэвіч Л.В., ліпень 1991г. У 1921г. налічвалася 198 двароў, 1147 жыхароў, з іх 1110 праваслаўныя, 12 каталікаў, 26 іудзеяў.

64. Дзеткавічы /мясц.: Детковичи; жыхары: з Деткович/ Дзеткавіцкі с/с Драгічынскі р-н. Інфарматары: Місоуская Ніна Мікалаеўна, 1930г. Абследавала Вакульчык В.М., снежань 1990г. У 1921г. налічвалася 103 двары, 514 жыхароў, з іх 506 праваслаўных, 1 католік, 7 іудзеяў.

65. Сукачы /мясц.: Сукачи; жыхары: сукачы́вцы, сукачы́вэц, сукачы́вка/ Немяржанскі с/с Драгічынскі р-н. Інфарматары: Мініч Вольга Антонаўна, 1926г. Абследавала Леванцэвіч Л.В., жнівень 1991г. У 1921г. налічвалася 81 двор, 381 жыхар, з іх 366 праваслаўных, 15 іудзеяў.

66. Чарнеевічы /мясц.: Чырніе́вычы: чырніе́вцы, чырніе́вэц, чырніе́вка/ Немяржанскі с/с Драгічынскі р-н. Інфарматары: Давыдчык Марыя Іванаўна, 1901г. Абследавала Вакульчык В.М., снежань 1990г. У 1921г. налічвалася 81 двор, 403 жыхары, з іх 398 праваслаўных, 5 іудзеяў.

67. Маркавічы /мясц.: Марковичы; марковича́нэ, марко́вэц, марковича́нка/ Немяржанскі с/с Драгічынскі р-н. Інфарматары: Вакульчык Вольга Міхайлаўна, 1933г. Абследавала Вакульчык В.М., снежань 1990г. У 1921г. налічвалася 74 двары, 386 жыхароў, з іх 364 праваслаўныя, 22 іудзеі .

68. Пярэспа /мясц.: Пырэспа; жыхары: з Пырэспы/ Немяржанскі с/с Драгічынскі р-н. Інфарматары: Ківачук Ніна Міхайлаўна, 1930г. Абследавала Леванцэвіч Л.В., ліпень 1989г. У 1921г. налічвалася 39 двароў, 221 жыхар, з іх 202 праваслаўныя, 1 католік, 13 другіх хрысціян, 5 іудзеяў.

69. Жабер /мясц.: Жабэр; жыхары: жа́бырцы, жа́бырэц, жа́бырка/ Хомскі с/с Драгічынскі р-н. Інфарматары: Вярышка Надзея Ігнатаўна, 1929г. Абследавала Леванцэвіч Л.В., ліпень 1989г. У 1921г. налічвалася 27 двароў, 176 жыхароў, праваслаўныя.

70. Старамлын /мясц.: Старомлыны; жыхары: старомлы́нцы, старомлы́нэц, старомлы́нка/ Хомскі с/с Драгічынскі р-н Інфарматары: Казловіч Алена Мікалаеўна, 1920г. Абследавала Леванцэвіч Л.В., ліпень 1989г. У 1921г. налічвалася 22 двары, 149 жыхароў, з іх 144 праваслаўныя, 5 іудзеяў.

71. Заяленне /мясц.: Залынне; жыхары: залыё́нцы, залыё́нэц, залыё́нка/ Хомскі с/с Драгічынскі р-н. Інфарматары: Млынец Валянціна Іванаўна, 1930г. Абследавала Леванцэвіч Л.В., ліпень, 1989г. У 1921г. налічвалася 27 двароў, 123 жыхары, праваслаўныя.

72. Хомск /мясц.: Хомск; жыхары: хомлякі́, хомля́к, хомля́нка/

